Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 17 (71) Пятніца, 10-га Красавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego“ pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.





## Апраўдальны прыгавар суда над Беларусамі ў Латвіі

З рыскае газэты „Сегодня“ відаць, што Дзьвінскі суд у Латвіі вынес апраўдальны прыгавар для ўсіх беларускіх дзеячоў, абвінавачваных у ўжываньні падручніка А. Смоліча „Географія Беларусі“, а таксама й этнографічнай карты Беларусі ў беларускіх урадовых школах Латвіі. Найбольш былі прасьледаваны настаўнікі: Янка Красноўскі, Пігулеўскі, Паўліна Мядзёлка, Андрэй Якубецкі і Костусь Езавітаў. Гэты апошні парадачны час быў трыманы ў рыскім вастрозе, прасядзеўшы ў ім аж да разгляду справы судом.

Цікава, што вышэйспомненае карыстаньне ў школах адзіным беларускім падручнікам географіі дало повад латвійскім судовым уладам абвінавачваць беларускіх настаўнікаў у антыдзяржаўнай дзейнасьці!

## Перад парлямэнцкім крызысам.

Перадвялікодная сэсія Сойму Польскае Рэспублікі закончана зусім натуральным пытаньнем, якое вытварылася ў рэзультаце аслабленьня таго кардынальнага значэньня, якое Сойму належыць у гаспадарстве па праву.

З сярэдзіны самога Сойму цераз клюб польскае народнае партыі „Wyzwolenie“ паўстала 2 красавіка пытаньне аб роспуску Сойму і назначэньні новых выбараў.

Да чаго заблуталася ў сваёй палітыцы партыя „Wyzwolenie“ відаць з таго, што срокам роспуску яна накрасьляла 15 ліпня, а срокам для новых выбараў 15 кастрычніка сёлетняга году.

Роспуск Сойму залежыць, паводлуг Польскае Конституцыі, ў найбольшай меры ад яго ўласнае волі, дзеля выражэньня якое патрэбна ня простая большасьць паданых за роспуск галасоў, а кваліфікованая.

І толькі дзеля таго, што „Wyzwolenie“, не паглядзеўшы, — як кажуць, — у календар, зазваніла ў званы, прасьцей кажучы—не падрахаваўшы ўсіх шансаў дзеля правядзеньня намечанай задачы—выступіла, як відаць, крыху не ў пару, бо перад самымі сьвятамі, — пытаньне аб роспуску сваім Сойм адкінуў значнаю большасьцю галасоў.

Было шмат спрэчак у разважаньні над гэтак вострым, паднятым „Wyzwoleniem“ пытаньнем. Клюб польскае соцыялістычнае партыі (P. P. S.) дадаў толькі зусім зразумелую папраўку да вызваленскага проекту, каб Сойм *распусьціў сябе зараз-жа.*

Гэткая папраўка мусіла быць бо незразумелай зьяўлялася формула вызваленцаў аб роспуску Сойму з 15 дня ліпня месяца.

Лёгіка гаворыць за тое, што калі праца цяперашняга Сойму ня вырашае ўсіх заданьняў дзяржаўнага будаўніцтва ў даны момант, ня вырашыла іх раней, дык не магла вырашыць і за тыя $2\frac{1}{2}$ месяцы, якія вызваленьне пакідала да момэнту самароспуску Сойму. Дзіўна йзноў, як гэта Сойм, калі-б ён прыняў перад Вялікаднем пастанову аб сваім роспуску ў ліпні, мог-бы працаваць далей!

Пытаньне аб роспуску Сойму не абы якое, каб яго, не абдумаўшы з ўсіх бакоў, можна было паднімаць.

І папраўка пэпэсаў аб незабаўным роспуску Сойму, пасьля лішняга многаслоўя, была адкінена Соймам большасьцю 194 галасоў проці 141, чым ужо і прадрашылася сама прапазыцыя „Wyzwolenia“, таксама Соймам адкіненая.

Што-ж давяло да гэтак вострага пытаньня, выплыўшага з нетраў самога Сойму?

Сойм зьяўляецца крыніцаю права, аб слабой пашане да якога б'юць, як у бубен, лявіцовыя польскія часопісі. Пачуцьцё законнасьці не ўкаранілася ў масах, адчуваецца ўсюды пасьляваенная расцуста, на грунце якой праяўляюцца то дзікія бандыцкія напады ў глухіх кутох нашага краю, то гэткае незразумелае здарэньне, як забойства памілаваных Галавою Дзяржавы праступнікаў, быўшых у характары арыштантаў пад асаблівай апекаю гаспадарственных уладаў. І забойства зроблена кім? Вураднікам тайнае паліцыі!

Усё гэта крайнія формы таго нерахаваньня з правам, якое цёмнаю пагрозаю зьвісае над Рэспублікай.

Ці-ж зрабіў што-нібудзь цяперашні Сойм, дзеля падняцьця ў самым сабе аслабеўшага аўторытэту, дзеля прышчапленьня *пачуцьця права* грамадзянству, вураднiцтву, ўсяму агулу насяленьня?

А што ён мог зрабіць у гэтым сэнсе пры тэй партыйнай разнагалосіцы, якая пануе ў цяперашнім Сойме?

Ці засталіся шчыльнымі рады, сшыкованыя пры выбарах у 1922 годзе, хоць-бы ў аднэй з болей дэмакратычных польскіх і нацыянальна-няпольскіх партыяў, прадстаўленых у Сойме?

Раскол сярод левых соймавых клюбаў зрабіўся бесьперарыўным зьявішчам унутры самога Сойму і адналітыя пры выбарах партыі началі шчапацца на самыя дробныя групы. Дасюль пасьпеў „распарцэляваць“ партыю „Пяст“ лідэр яе п. Вітос, радыкальнае „Wyzwolenie“ напярэдадні аканчальнага развалу, коштам украінцаў узмацнілі свой лік польскія камуністыя, страціў па розных прычынах свой першабытны асабовы склад Беларускі Пасольскі Клюб, сярод сяброў якога год назад паўставала думка выдзяліць асобную соцыялістычную групу.

Пры гэткім тэмпе шчапаньня, за тыя, што законна застаюцца для істнаваньня поўнамоцтваў Сойму, два гады, справа пагражае сапраўды дайсьці да палажэньня, калі ў кожнай партыі можа запанаваць „што галава — то розум“.

І ў нясіле сваёй вытварыць тую ці іншую парлямэнцкую большасьць дзеля утварэньня абапёртага на Сойме ўраду, Сойм Польскае Рэспублікі мусіў аддаваць пэўную долю свае компэтэнцыі выканаўчай уладзе-Ураду, дзеля правядзеньня неадкладных *санацыйных* рэформаў.

Справу правоў нацыянальных меншасьцяў Сойм *фармальна паўразрашыў* прыняцьцем у нязвычайна сьпешным парадку языковых законаў, апрацованых урадам, не зьмяніўшы ані *фактычнага* стану рэчаў.

Пры аддаленьні законаў ад прытарноўваньня іх у жыцьці, ад прытарноўваньня, выкліканага штучнымі ці натуральнымі прычынамі, паўстае бязьдзейнасьць законаў, а з ёю і зразумелая бязьдзейнасьць і самое крыніцы законаў, якою зьяўляецца Сойм.

Рэспубліка апынулася перад пытаньнем аб парлямэнцкім крызысе.

На Захадзе за час істнаваньня першага пасьля Констытуанты Польскага Сойму парлямэнцкія крызысы лёгка праходзілі то тут, то там, дзякуючы крыху іншым аснаўным дзяржаўным законам.

І ў Польшчы патрэба новых выбараў у законадаўчыя органы насьпела не сягоньня.

Крызыс ня зжыты, ён толькі адсрочаны перадвялікодным галасаваньнем Сойму.

ту Фэрыд-бэй, быўшы міністар, назначаны паслом у **Маскву.**

▭ У **Італіі** прэм'ер-міністар Мусоліні прыняў на сябе часовае кіраўніцтва ваенным міністэрствам, замест пайшоўшага ўадстаўку гэн. Джорджыё.

▭ **Фінская** прэса паведамляе, што новы прэзыдэнт Фінляндыі Л. Ролендэр замерваецца сёлета ўлетку наведацца ў **Рэваль** і **Рыгу.** Мэтаю служыць узмацненьне прыязных адносін з балтыцкімі дзяржавамі.

▭ У **Францыі** быўшы прэзыдэнт рэспублікі Мільеран выбраны у Сэнат і прылучыўся да групы рэспубліканскае вуніі, на чале якой стаіць Пуанкарэ. Пры зьяўленьні Мільерана ў сэнаце левыя крычалі на яго: „Рэнэгат! Здраднік!" а правыя сустрэлі овацыяй.

▭ З **Канстантынопаля** паведамляюць, што **грэцкі** ўрад згадзіўся вырашыць пытаньне аб патрыярхаце шляхам адрачэньня высланага патрыярха Канстантына. **Турэцкі** ўрад пазволіў застацца ў Канстантынопалі 40 грэкам, якія падлягалі высылцы.

▭ Як вядома, **Вэнгрыя** ў верасьні леташняга году зрабіла з **радавым** урадам эканамічны дагавор. Але ратыфікацыя гэтага дагавору, меўшая адбыцца ў сьнежні, адложана па жаданьню Вэнгрыі да красавіка. Цяпер вэнгерцы йзноў просяць адсрочкі ратыфікацыі на 6 месяцаў.

# Агляд прэсы.

„Przegląd Wileński" піша:

Аднэй з галоўных прычын няўдачаў польскай дзяржаўнасьці на ўсходніх абшарах ёсьць тое, што не адрозьніваюць гэтых абшараў ад земляў чыста польскіх і не зьвяртаюць увагі на асаблівыя патрэбы іхняга рознаплямённага насяленьня.

Да гэтых патрэбаў належадь, галоўным чынам, патрэбы культурна-прасьветныя і рэлігійныя.

Надта добра ведамы і надаелі ўжо гутаркі аб тым, што масы „тутэйшыя" ня маюць нацыянальнае і палітычнае сьвядомасьці, а таксама аб тым, што гэтую сьвядомасьць штучна будзіць жменька агітатараў.

Гэткія пагляды абапёрты, галоўным чынам, на тым, што забываецца той псыхолёгічны закон, правераны тысячамі прыкладаў, што як у фізычных зьявішчах усялякая дзеяльнасьць выклікае процідзею, гэтак сама гвалтам накінутыя нейкія духовыя зьявішчы спатыкаюцца з гэткай самай псыхічнай контрдзеяльнасьцю.

Дзеля гэтага масавае прабуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці розных народаў і пляменьняў найчасьцей пачынаецца тады, як у адносінах да іх у духовай сфэры робіцца насільле...

Апрача таго надта шмат верыцца ў гэтую бязьдзейнасьць масаў, а не дацэньваюцца сілы гэтай невялічкай інтэлігэнцыі.

Душой грамадзянства і выразьніцай іхняга імкненьня заўсёды зьяўляецца інтэлігэнцыя, незалежна ад багацьця тых духовых або фізычных спосабаў, якімі яна карыстаецца.

Незалежна ад ступені сьвядомасьці і культуры масаў, гэтая інтэлігэнцыя заўсёды знойдзе шлях і спосаб, каб прамаўляць да выабражэньня і патрэбаў масы і выкарыстаць яе энэргію для сваіх мэтаў.

Дык дзеля гэтага нельга лёгка адносіцца да патрэбаў інтэлігэнцыі, бо, ня гледзячы на бязьдзейнасьць масы, у канцы канцоў патрэбы гэтай інтэлігэнцыі зьяўляюцца мотарам дзеяльнасьці грамадзянства, якое стаіць навет на найніжэйшай ступені разьвіцьця.

А ў нас зусім лёгка адносяцца таксама да духовых і культурных патрэбаў гэтай чужаплямённай інтэлігэнцыі, як і масаў, асабліва беларускіх.

Амаль што зусім няма беларускіх пачатковых школаў з прычыны перашкодаў з боку дзяржавы, і няма надзеі на іх пашырэньне дзеля таго, што няма вучыцельскай сэмінарыі.

Са страшэннымі труднасьцямі змагаюцца беларускія сярэднія школы, не даючы права доступу сваім вучням у польскія унівэрсытэты.

Ня кажам ужо аб вышэйшай школе, або хаця-б аб катэдры беларусазнаўства ў польскім унівэрсытэце...

Моладзь выяжджае ў Прагу, дзе чэшскі ўрад дае шмат стыпэндыяў для беларускай моладзі, якая ня можа вучыцца ў Польшчы; выяжджае ў Латвію, выяжджае ў Менск, дзе за мяжой паўстае „дзяржаўная Беларусь", дзе беларуская школьная справа мае энэргічную апеку дзяржавы і стараецца вытварыць інтэлігэнцыю ня толькі дзеля ўласных патрэбаў, але асабліва на вываз для шырэньня клічаў грамадзкага перавароту і адарваньня ад Польшчы.

Клічы эканамічныя (зямельны голад) зьліваюцца з нацыянальнымі, творачы сынтэзу вось пад уплывам гэтай інтэлігэнцыі, якой патрэбы не здаволены, якая пазбаўлена ў Польшчы заработкаў, перад якой зачынены ўсе шляхі дзяржаўнае працы, а таксама працы культурнай, а навет эканамічнай...

Аўтор ад'значае, што, дзякуючы гэткай польскай палітыцы, у часе выбараў у Сойм меў гэткую ўдачу № 16 і канчае гэткім вывадам:

Вось рэзультат нашай крэсовай палітыкі ў сфэры школьнага пытаньня, палітыкі, якая імкнецца надта простымі і мэханічнымі спосабамі зьліць нашыя Крэсы з Польшчай.

# Маленькі фэльетон.

## Нашыя казкі.

Мой маленькі фэльетон табе я, браце, ахвярую!

У ім пазнаеш сам сябе, як у люстэрцы, мой панок, ты, даражэнькі!..

Ось паслухайце, браточкі, што здарылася ў нашай старонцы, якую Наваградчынай завуць!..

Навет да гэтай пары я сьцяміць не магу ці то быў сон, ці ява!..

Быў ён чалавек, як чалавек, сябра кожнаму гаротнаму селяніну...

Ну, а зара—далібо, не разбяру, ці ён не на пана захварэў, (але выбачайце, мае даражэнькія сябры, сказаць па сэкрэту, дык на хваробу гэту шмат хто з нас хварэе ў пякельны гэты век)...

Ну, дык ось гляджу—ідзе гэта; раней здалёку ўгледзеўшы яго, не пазнаў, мяркую—нейкі пан заморскі аглядаць прыехаў нашую старонку, але потым, падайшоўшы блізка, пазнаю!..

А, бадай яму трасца ў бок! У цыліндры, белых рукавіцах, саўсім як у байцы тэй — «нарукаўнічкі трубой, скрыпяць боты на нагах, тырчыць каўнер і блішчыць на ім уся прынада!»...

Падхожу да яго ..

— Антук! Што ты, звар'яцеў? на каго-ж ты выглядаеш? — кажу яму.

А ён, паважна гэтак, зірнуўшы на мяне, кажа:

— Куды лезеш, неабчэсаны мужык! Бачыш, — ледзьве маіх фокстротаў не здратаваў!

Гэтакае ён слова выпаліў, мае браточкі, дык навет і да гэтае пары ня выгаварыць мой язык!..

Тут я зірнуў на яго боты—аж адскочыў ад яго! Што за боты, дык апісаць не змагу: насы як у бусла дзюб, абцасы — быццам кармавыя буракі, а нагавіцы, дык далібо-ж, не разбяру: ўгару вузей, а ўдол шырэй, а ў іх боўчыцца з насастымі ботамі яго нага.

Гляджу я на яго і сваім вачом ня веру..

Мяркую: ці не абароцень гэта часам і нават хацеў ужо жагнацца і пацеры казаць.

Як раптам ён зарагоча:

— Што, брат, не пазнаў? ось якія зара мы! і раптам запяяў: «О Баядэра, о, Баядэра!» і ад мяне адайшоў...

Як ашпараны я стаяў...

Пасьля плюнуўшы, згінь, прападзі! нячыстая сіла!...

А ён ішоў праз вёску і пяяў!..

Ось, мае вы браточкі, да чаго можа дайсьці чалавек, калі свой разум страціць.

Ня дай, Божачка, калі зноў з ім спаткацца!...

Так і глядзі сам абаротнем зробішся такім. альбо прападзеш саўсім..

**Біч.**

М-ка Карэлічы.

# Жыцьцё провінцыі.

### Што чаўпе войт?

Нам пішуць з **Клецкае воласьці, Нясьвіскага павету.**

„Няцікава працуе войт нашае воласьці п. Марцінкевіч. Ен так тэрарызуе і разам з тым рэвалюцыянізуе сялянскія масы, што далей няма куды йсьці. Вёсцы Бабаевічам ён адмаўляў увесь час у засьведчаньні подпісаў на дэкларацыях аб школе, спадзяючыся прапусьціць срок, пагражаў рэпрэсіямі, арыштам і т. д. 26 сакавіка да войта прыйшло адразу 50 чалавек з **Бабаевічаў.** Скрыгічучы зубамі, войт падпісаў 46 дэкларацыяў, якія ўжо зданы ў інспэктарат. Наглядзеўшыся на бабаевічан, пайшлі да войта 47 чалавек з **Палаўковічаў.** Войт катэгорычна адмовіў у засьведчаньні подпісаў. У суботу 28 сакавіка прыйшлі ў ліку 42 чалавек **кухчычане.** Войт падпісаў 9 дэкларацыяў, далей падпісваць адмовіўся. 30 сакавіка паасобным людзям з **Кухчыцаў** войт таксама ў засьведчаньні дэкларацыяў адмовіў.

Незалежна ад зьбегу сроку складаюць сьпіскі для напісаньня дэкларацыяў — **Сухлічы, Вяжэвічы** й **Сякерычы.** Горш за ўсё, што апрача пагрозы рэпрэсіямі, адмоваю ў насеннай і іншай падмозе, войт змушае маладушных і трусьлівых драць дэкларацыі, адсылае іх у паліцыю на дапрос і сьпісваньне пратаколаў. Больш стойкім і сьвядомым ён проста ставіць пытаньне: „Што-ж, Ждановіч (Кухчыцы, 30.III) камуністычную ячэйку задумаў адчыніць?"

Калі ў інспэктараце здавалі дэкларацыі прадстаўнікі адразу аж 6 вёсак, дык там іх прымалі суха, неахвотна і навет варожа".

### Несьвіж.

Жыхары вёскі **Лявонавічаў** заложылі гурток Беларускага Таварыства „Прасьвета". У школьны інспэктарат здалі дэкларацыі жыхары гэткіх мясцовасьцяў: **Межная Слабада, Мацькоўічы і Рудкі,** *Сіняўскае воласьці,* **Леановічы, Брыкоўшчына, Блячына, Дзямідовічы** і **Салтанаўшчына,** *Ланскае воласьці.* Пры чым школьная інспэктарка п. Піотроўская адмовілася выдаць паквітаваньне ў прынятку дэкларацыяў ад першых трох з вышэйпаказаных вёсак, у той час, як на іншыя паквітаваньні даваліся.

Ліха ведае, што выробляе настаўнік пачатковае польскае школы ў **Дунайцыцах.** Ен прыдумаў нейкі дзіцячы плебісцыт. Заўсёды змушае **дзяцей галасаваць,** якое яны хочуць школы: польскае ці беларускае?

Недарма гэтым настаўнікам зьяўляецца *Григорій Григорьев* (!).

Дзеці прагаласавалі ўсе за школу беларускую, апрача дзяцей з маёнтку.

Ці падобныя рэчы ў школе можна дапушчаць?

**Сіняўскі.**

### Берасьце.

22 мінулага сакавіка тут адбыўся зьезд польскае краёвае інтэлігэнцыі. На зьезьдзе, прыняўшым дэмакратычную праграму, пастаноўлена стварыць новую польскую партыю пад назовам „Zjednoczenie demokratyczne kresów wschodnich".

Каб ня было толькі ўсё гэта паўтарэньнем ранейшых польскіх палітычных фармацыяў у нашым краі. Бо пра гэтак званы „Związek Kresowy", мабыць створаны толькі на час парлямэнцкіх выбараў у 1922 г., цяпер ужо нешта нічога ня чуваць.

**Х.**

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Навіны ў Помпэі.

Італьянскі ўрад апошнім часам прыкладае ўсе стараньні, каб работы па выкопваньню залітага каля 2000 гадоў назад вулканічнаю лаваю гораду Помпэі выпаўняліся паводлуг найлепшае мэтоды. Дасюль гэткім спосабам адкопана адна вуліца, а від яе такі чароўны, што цяпер толькі можна спадзявацца пры далейшым вядзеньні работ, што людзі нашае пары даведаюцца, нарэшце, як выглядала Помпэя, загінуўшая гэтак трагічна. Ідучы па гэтай сьвежаадкопанай вуліцы, чалавек проста ня хоча верыць, быццам гэтулькі мінула сталецьцяў ад часу, калі няшчасныя помпэйцы раптоўна былі захоплены выбухам вулькану Вэзувія. Адтрымліваецца ўражаньне, нібыто яшчэ ўчора ў дамох гэтае вуліцы жылі людзі. На сьценах дамоў відаць рэклямы. У аднэй абвяшчаецца, што заўтра адбудзецца вялікая барацьба глядыятараў. А найцікавейшае абвешчаньне аб выбарах у дуумвірат. Бо напярэдадні катастрофы помпэйскія ўцекачы меліся йсьці да урны. А цяпер пасьля 2.000 гадоў можна прачытаць гэткія лёзунгі, як: „На кандыдата прапануем C. Lulliusa Fuskusa!" альбо „Выбірайце толькі Polibiusa!"

Адзін з дамоў выглядае гэтак сьвежым, як быццам толькі што людзі яго пакінулі. Саля для яды блізу непапсована, па сьценах ясьнеюць сваімі чароўнымі хварбамі фрэскі. На сьценах цікавыя надпісы, як напр.: „Не глядзі хцівым вокам на жонку бліжняга!" „Ухіляйся ад распусты і вяртайся да свае хаты!" У садзе настолькі сьвежы фантан, што, адкруціўшы курок, можна зьдзівіцца вылятаньню ўгару вады. (З „E. Warsz.")

### Ангельскія вучоныя працуюць над тым, каб прадоўжыць чалавечае жыцьцё.

Як піша лёнданская часопісь „Daily Mail”, у аднэй з ляборатарыяў у Лёндане два вучоныя стараюцца выясьніць тайну нашае сьмерці. Яны стараюцца прынамсі знайсьці магчымасьць большага ці меншага прадоўжаньня чалавечага веку. Гэтыя вучоныя даказваюць, што гоняць нас у дамавіну радыяактыўныя праменьні зямлі. Залежна ад фізычнае адпорнасьці, яны зьнішчаюць чалавечае жыцьцё ў працягу 70 ці болей гадоў, а калі ім гэта палягчаюць акалічнасьці, дык сьмерць надходзіць яшчэ хутчэй. Адсюль паўстае пытаньне, ці можам мы бараніцца ад страшэннага ўплыву гэтых праменьняў нашае плянэты? Ангельскія вучоныя даказваюць, што можам. Навет радзяць адпаведны спосаб гэтае абароны, якога, праўда, нельга раіць навет свайму непрыяцелю. Яны радзяць ні больш ні менш, каб мы ўсё сваё жыцьцё хадзілі ў панцырных грудах, штучна дыхалі, штучна карміліся і г. д. Такім спосабам, аднак-жа пры варунку, што гэтыя панцырныя груды будуць таўшчынёю ня менш, як з дзесятую часьць цела, мы будзем магчы забясьпечыць сабе несьмяротнасьць. Вышэйназваныя панцырныя груды не прапушчалі-б руйнацкіх праменьняў.

Нажаль, навет і вучоныя ангельцы разумеюць, што рэкамэндованы імі спосаб зьяўляецца саўсім непрактычным. Праз гэта яны стараюцца цяпер знайсьці лепшыя спосабы. Яны робяць дасьведчаньні з тымі электрычнымі энэргіямі, якія ўдзень і ўночы выдзяляюць мускульныя і нэрвовыя цэнтры чалавека, дзеля таго, што, як ім здаецца, нешта падобнае істнуе. Вучоныя стараюцца выясьніць, наколькі гэтыя энэргіі паддадуцца кантролю і як яны рэагуюць на радыяактыўныя сілы зямлі?

### Сколькі жыхароў у Францыі?

Апублікованыя ведамасьці за мінулы год аб руху насяленьня ў Францыі паказваюць, што лік шлюбаў блізу што не зьмяніўся ў параўнаньні з 1923-м годам: у 1924 г. іх было 355.923, а ў 1923 г. 336.501, але ў той самы час нарадзілася дзяцей на 10.000 менш, а памёрла людзей на 13.000 больш, чымся ў 1923 г. Гэткім чынам, перавышэньне ліку народжаных у параўнаньні з памёршымі зьменшылася з 94.871 у 1923 г. да 72.216, г. зн. панізілася блізу да роўня 1922 году, калі прыбытак насяленьня азначыўся ў 70.679 душ.

Усяго ў канцы 1924 г. ў Францыі было 39.209.513 жыхароў.

---

## У С. С. Р. Р.

### Высяленьне абшарнікаў.

Паводлуг аблічэньняў камісарыяту земляробства, на тэрыторыі Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік ёсьць 5.123 гаспадаркі быўшых абшарнікаў, што дасюль жывуць у сваіх дварох. На гэтых гаспадарках жыве 30.000 чалавек, зямлі ў іх каля 65.000 дзесяцін. Да 1 лютага сёлетняга году выселена 1.200 сем'яў.

### Жыдоўскія земляробскія колектывы.

Адабраўшы ў дробных жыдоўскіх гандляроў права мець уласныя крамкі, бальшавікі стараюцца даць ім магчымасьць працы на зямлі.

У Хэрсонскім вокрузе пачата расьсяленьне жыдоўскіх земляробскіх колектываў. У бягучым годзе там мае быць расьселена 2.400 сем'яў жыдоў з Кіеўскае і Валынскае губэрняў.

### Суд над... пролетарыятам.

У Екацерынаслаўскім судзе разглядалася справа аб разгроме безработнымі крамаў у кастрычніку 1924 году. Адзін абвінавачаны засуджаны на расстрэл, 42 на адсідку ў вастрозе ад 5 да 10 гадоў.

### Забойства арыштованых.

Праз Рыгу адтрыманы весткі, што ў палітычным вастрозе ў **Полацку** адбыўся бунт арыштантаў, выкліканы нялюдзкім абходжаньнем з імі вастрожных уладаў. Зьявіўшыся батальён пяхоты навёў парадак. 35 арыштантаў прысуджаны да сьмерці. Ходзяць чуткі, што сярод расстрэленых шмат палякоў.

### Палёгкі для прыватнага капіталу.

Роста паведамляе: Народнаму камісарыяту фінансаў даручана пасьпешна апрацаваць законапроект аб палёгках па ўнясеньню падаткаў ад прыватнага капіталу. Адначасна радавы ўрад прыняў меры для павялічэньня аснаўнага капіталу дзяржаўных гандлёвых фірмаў і для пашырэньня апэрацыяў коопэратываў. Дзеля гэтай мэты ім даецца крэдыт з бюд'жэтных сумаў у разьмеры 10 мільёнаў рублёў.

---

## Навіны ў тры радкі.

— У Смаленску 6 сялян, забіўшых камсамольца Степутенкова засуджаны на 10 і 8 гадоў вастрогу.

— У сакавіку г. году ў Петраградзе (цяпер Ленінград) налічвалася 1.289.539 жыхароў.

— Колегія наркампросу пастанавіла зьліквідаваць унівэрсытэт у Смаленску.

— На вялізнае фабрычнае польскае места Лодзь прыпадае падатку ад маемасьці агулам на 61.189.597 злотых.

— З Нью-Іорку паведамляюць, што ў раёне Міамі (ў Флёрыдзе) гураган часткова зруйнаваў 5 сёлаў. Забітых 11 чал., цяжка раненых каля 100.

— Саюз банкіраў у Бесарабіі сабраў 40.000 леяў на падмогу вядомаму расейскаму адвакату Н. Карабчэўскаму, бараніўшаму ў свой час Бэйліса.

— 5 гэтага красавіка ў Эгіпце згарэлі чатыры вялікія вёскі. У агні загінула 56 чалавек. 1.300 чалав. засталіся без страхі над галавою.

У сакавіку месяцы ў Нямеччыне было ў абегу $4^1/_2$ мільярды залатых марак.

— Ляцеўшы над каналам Ля-Манш ангельскі ваенны аэроплян упаў у ваду. 2 афіцэры ўтапіліся, а двух выратавалі.

— З Нямеччыны паведамляюць, што з р. Вэзэр выцягнена 30 салдацкіх трупаў. Паводлуг афіцыяльных даных утрапілася пры правале мосту 80 салдатаў.



## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Юрыдычны Аддзел** адчынены пры Часовай Беларускай Радзе (Вільня, Нямецкая вул., готэль Сакалоўскага, пакой 24). У аддзеле працуюць выдатныя юрысты, якія даюць парады па ўсялякіх справах, пішуць прашэньні і скаргі да ўсіх судовых і адміністрацыйных установаў. Падпісчыкам нашае газэты на іх пісьменныя пытаньні будуць давацца парады праз газэту дарма.

Аддзел адчынены штодня ад 11 да 1 гадз. ўдзень.

= **Паведамленьне Камісара Ураду**. Камісар Ураду на м. Вільню паведамляе, што ў найбліжэйшым часе вайсковыя ўлады пачнуць закуп збожжа на краёвым рынку ў вялікай колькасьці, плацячы гатоўкаю па 32 злотыя за 100 кілёграмаў. Пры дастаўках да вайсковых магазынаў будуць брацца пад увагу кошты транспорту. У выпадку наніжэньня цэнаў на збожжа за граніцаю, вышэйназваная цана таксама панізіцца, аднак-жа толькі датычна тых транспортаў, якія будуць дастаўляцца пасьля абвешчаньня аб паніжэньні цэнаў.

Аб сроку пачатку закупаў вайсковыя ўлады абвесьцяць праз мясцовую прэсу.

Калі-б спомненая акцыя не дала пажаданых рэзультатаў, дык Урад будзе закупляць збожжа за граніцаю.

= **Пра „абыватэльства“**. Дэлегатура Ураду, выпаўняючы распараджэньне рады міністраў аб упрошчаньні справы абыватэльства ў вёсцы, надрукавала ўзоры блянкетаў дзеля перапісі насяленьня. Блянкеты рассылаюцца па паветах. Разасланы таксама й інструкцыі павятовым старастам. Незабаўна пасьля сьвятаў пачнецца перапісь насяленьня з падзелам яго на 3 катэгорыі.

= **Рэестрацыя рэзэрвістых.** З 15-га гэтага красавіка пачнецца рэестрацыя прызыўных, радзіўшыхся ў 1905 годзе, а таксама й рэзэрвістых, якія ня маюць вайсковых кніжак.

= **На дабрачыннасьць**. Магістрат асыгнаваў 7.949 злотых на патрэбы дабрачынных інстытуцыяў места.

= **Ахвяра для забойцы.** „Dzien. Wil.“ за 9.IV № 82 зьмяшчае таблічку ахвяраў, зложаных у адміністрацыі гэтае газэты. Паміж іншым, на першым месцы аднатована: „Dla rodziny Muraszki—Z. Bielinowiczowa 2 zł“.

= **Падмога расейцам.** Магістрат асыгнаваў 300 злотых на падмогу Віленскаму Расейскаму Т-ву дзеля ўтрымліваньня народнае кухні.

= **Перавыбары ў Час. Літоўскім Камітэце.** „Letuvos Kelias” падае заметку аб выбарах у Часовым Літоўскім Камітэце ў Вільні. Старшынёй камітэту выбраны д-р Ольсэйко, віцэстаршынёю кс. Чубірас, скарбнікам кс. Заянчкоўскі, сэкрэтаром рэдактар Вэлецкі.



## УСЯЧЫНА.

### Бунт амэрыканскіх сэнатараў.

„Руль“ паведамляе, што ў адным з амэрыканскіх штатаў — Індыяне падчас разгляду пытаньня аб парадку выбараў, 18 сяброў сэнату гэтага штату, каб недапусьціць да прыняцьця аб вышэйсказанным пытаньні новага закону, зрываючы кворум выехалі на тэрыторыю штату Огайо. Па загаду сэнату служачы канцэлярыі мясцовага парлямэнту быў пасланы за імі з прыказам затрымаць іх і даставіць назад. Пры гэтым ён зьвярнуўся за падмогаю да істнуючае ў Морыяне (штату Індыяна) арганізацыі сышчыкаў, спэцыялістых па розыску канакрадаў, дзеля таго, каб выясьніць, дзе знаходзяцца ўцёкшыя сэнатары. У той самы час у мясцовы парламэнт унесены законапроект аб штрафаваньні на 1000 рублёў кожнага сябра заковадаўчага аргану, які самавольна ўхіляецца ад выпаўненьня сваіх абавязкаў.

### Прысяга бязрукага.

Як вядома, прысягаючы людзі паднімаюць угару адну руку і да таго правую. Як-жа прысягаць бязрукаму?

У адным францускім провінцыяльным судзе нядаўна было гэткае здарэньне: У ролі сьведкі трэ'было выслухаць аднаго маладога чалавека, які падчас сусьветнае вайны адважна біўся на фронце. Калі дайшло да прысягі гэтага сьведкі, дык толькі тады судзьдзя заўважыў, што гэта інвалід, страціўшы на вайне абедзьве рукі. Як-жа ж ён меў прысягаць!

Добра падумаўшы, судзьдзя дайшоў да пераканаНьня, што ня можа быць і гутаркі аб тым, каб сьведка прысягаў, ня выцягнуўшы чаго-нібудзь угару — і распарадзіўся каб інвалід прысягаючы падняў сваю правую нагу. Так і зрабіў няшчасны калека, складаючы прысягу, сярод вялізнага рогату публікі быўшай у судзе!

### Арыгінальны жаніх.

Бываюць розныя ахвотнікі жаніцца, але як? „Ilustr. Kur. Codz.“ піша, што два месяцы назад кракаўская паліцыя шукала нейкага Оттона Кржшчудзкага, які нарабіў шмат налужыцьцяў. Спэцыяльнасьцю гэтага суб'екта было адшукваньне дзяўчат пад відам жаніцьбы. Апошняю ахвяраю праступных інстынктаў яго была нейкая О. О. з Падгуржа, якой К. дакляраваў ажаніцца з ёю, не адкідаючы пры гэтай аказіі абабраць яе на 1.000 злотых дзеля „перадвясельных расходаў“.

Спрытнага жуліка гэтымі днямі арыштавала келецкая паліцыя і даставіла яго ў Кракаў.

### Згалеўшы арыстократ.

У Будапэшце (Вэнгрыя) паліцыя знайшла апранеага ў лахманы жабрака, спаўшага на лаўцы ў парку пад голым небам. З папераў яго выясьнілася, што гэта прадстаўнік аднае з найбольш радавітых фаміліяў Нямеччыны, быўшы князь Аляксандар Гогэнлёэ Гэрынгэн, некалі служыўшы палкоўнікам у баварскай кавалерыі. У 1895 г. ён мусіў адмовіцца ад свайго імя і правоў дзеля таго, што **ажаніўся з жанчынай ніжэйшага соцыяльнага стану,** затым прамантаў усю сваю маемасьць, быў некалькі разоў жанатым, паступова зьяжджаў усё ніжэй і ў апошні час жыў на кошт беднае прачкі, якая яго утрымлівала.

**Рэдактар-Выдавец Язэп Салавей** Друкарня „Lux”, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.